ЦАНА (PRICE) 20¢

ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША. РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ.

# БЕЛАРУС

BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER

PUBLISHED BY BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC. 401 ATLANTIC AVE. BROOKLYN, N. Y.

Год IX. № 65 | 25 Сакавіка 1958 г. | NEW YORK, N. Y., U. S. A. | March 25, 1958 | Vol. IX. № 65

## МАНІФЭСТ
## Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!**

Сорак год таму, на векапомным гістарычным паседжаньні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ўначы з 24 на 25 сакавіка 1918 году, воляю Тваёю была абвешчаная поўная незалежнасьць і сувэрэннасьць Твае дзяравы — Беларускае Народнае Рэспублікі — БНР.

Надосьвітку 25 сакавіка сьвежыя граматы на сьценах муроў сталіцы, ранішнія газэты, адмысловыя лістоўкі несьлі вялікую радасную вестку, што ад тае начы пала „з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край".

Тае-ж раніцы Урад БНР разаслаў тэлеграмы ўрадам краёў усяго сьвету, у якіх паведамлялася й ім, што на прасторы былых царскіх губэрняў — Віленшчыны, Горадзеншчыны, Меншчыны, Магілеўшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны ды сумежных зь імі частак этнічных беларускіх земляў — беларускі народ стаецца самастойным сувэрэнным гаспадаром.

Усім, і сваім і чужым, маладая рэспубліка яшчэ раз урачыста пацьвярджала „усе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г." — адным зь першых заканадаўных актаў, што сфармуляваў асновы канстытуцыі дзяржавы яшчэ перад абвешчаньнем ейнае незалежнасьці.

Яна пацьвярджала, што ў межах БНР —

дзеіць „агульнае, роўнае, простае, патаёмнае й прапарцыянальнае выбарчае права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію (§2 канстытуцыі);

„абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня" (§5 канстытуцыі);

„усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі" (§6 канстытуцыі);

„зямля передаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры й нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцяй Беларускае Народнае Рэспублікі" (§7 канстытуцыі);

„устанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень" (§8 кастыцыі).

Гэтак, у геаграфічным цэнтры Эўропы, на прасторы, прыблізна роўнай Францыі, паўставала нанова да жыцьця Беларуская Дзяржава з 20-міліённым жыхарствам.

Па сто дваццаць пяцёх гадох нанова зарысоўваліся контуры гаспадарства народу, што калісь на працягу больш за паўтысячы год быў апошнім вязьмом заходня-эўрапейскае цывілізацыі, гранічным бар'ерам перад агрэсыўнаю, свабоданенавідніцкаю й свабодагубнаю Масквою.

Ды тымчасам, калі ў вадноўленай беларускай дзяржаве народ, натхнёны духам свабоды й гуманнасьці, успадкаемленай ад прашчураў сваіх, з энтузіязмам браўся за адбудову палітычна-грамадзкага ладу, кіруючыся прыроднымі й Боскімі законамі братняе любові-справядлівасьці, у гэнай Маскве ўсталёўвалася новая ўлада бязбожных тыранаў, фанатычных злосьнікаў і ненавіднікаў свабоды.

Заняўшы скрываўлены пасад цароў-дэспатаў, яны цьвёрда наважылі разбурыць маладую Беларускую Народную Рэспубліку, каб народ беларускі зноў падпарадкаваць бясспупярэчнаму паслухмянству крамлёўскім „указам".

Ужо адразу-ж па свабодным выяўленьні волі беларускага народу на Усебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 г. яны пазрадніцку напалі на народных абраньнікаў, што задэкляравалі жаданьне свайго даверніка-народу стварыць дэмакратычную Беларускую Народную Рэспубліку.

Ды пераканаўшыся ў непахіснасьці й нязломнасьці волі свабодалюбнага беларускага народу, па годзе зь лішнім часу — 1 студзеня 1919 г., у беларускім Смаленску — яны прагалошваюць другую „беларускую рэспубліку" — БССР — савецкую гора-дзяржаву ў тых-жа, што й БНР, этнаграфічных межах Беларусі.

Беларускі народзе, шмат каму яшчэ ў памяці тыя дні, калі везьлі гэны смаленскі „беларускі" ўрад на бранявіках у Менск пад аховаю гарматаў і штыкоў міліённых роішчаў маскоўскіх чырвоных „вызвольнікаў".

У памяці й тыя трагічныя дні, калі Ты, народзе, сьмела й адважна, із зброяй у руках выходзіў супраць новага акупанта — тады й ці раз пасьля, як ахвярна й гэраічна дала бой навале з Усходу слаўная Слуцкая дывізія, як зацята й непахісна змагаліся тысячныя і дзесяцьтысячныя аддзелы Лепельшчыны, Барысаўшчыны, Віцебшчыны, Пскоўшчыны . . . Ды абараніць свой край, сваю дэмакратычную Рэспубліку перад гвалтоўнаю перавагаю дзікое сілы ня судзілася Тав е . . .

Беларусь была заваяваная, Ты зноў апыніўся ў палоне. Акупант абвесьціў Раду й Урад БНР „вонках закону", ды гэтак-жа „вонках закону" пастаўлены быў і ўвесь Ты, Беларускі народзе.

Зьдзек і глум у жывыя вочы стаўся найвышэйшым законам і правам у гэтага здрадлівага й цынічнага акупанта.

Агаласіўшы ў Смаленску БССР у этнаграфічных межах Беларусі, ён увесь час ганебна маніпулюе й гандлюе на ўсе бакі беларускімі землямі, найвялікшую частку іх, разам із тым гістарычным Смаленскам, проста прырэзаўшы да свае Расеі.



ПЕРАД ДОМАМ РАДЫ УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ У МЕНСКУ 20 ЛЮТАГА 1918 ГОДУ ПАСЬЛЯ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ СТАЛІЦЫ АД БАЛЬШАВІЦКАГА АКУПАНТА.
Зь менскага часапісу „ВАРТА", № 1, 1918 г.

Заміж раўнапраўнасьці моваў усіх народаў Беларусі, гарантаванае законам БНР, усім ім гвалтам накідаецца акупантава мова расейская, пры дыскрымінацыі й паняверцы над роднаю мовай Тваей, Беларускі народзе.

Заміж забясьпечанага законам БНР дэмакратычнага выбарчага права ўсім грамадзянам — акупант „выбірае" сваім „указам" з Крамля сваіх-жа „кандыдатаў" ды, згідна зьдзекуючыся з права й свабоды, гоніць гвалтам народ да „урнаў" кідаць туды ўпіханыя ў рукі казённыя аднастайныя „бюлетэні".

Заміж свабоды слова й друку для ўсіх — ён знае права голасу толькі для сваіх падгалоскаў камунізму.

Заміж свабоды сходаў — зганяюць усіх слухаць ды пляскаць на прамовы-навучаньні ненавісных Табе бальшавіцкіх прапагатараў.

Заміж свабоды хаўрусаў, забастовак, як забясьпекі ад вызыску, эксплятацыі працы — увагнаны аж у косьці страх нат падумаць аб гэтым, жорсткай кары годным „буньце" супраць акупанта.

Заміж зямлі бяз выкупу — выкуп крывавымі „працаднямі" скарынкі хлеба ў вадноўленай паншчыне-прыгоне калгасаў.

Заміж найбольшага 8-гадзіннага працоўнага дня — выціскальная стахаўшчына, найжахлівейшая сыстэма эксплятацыі работніка.

Заміж запэўненай законам БНР свабоды сумленьня, незачэпнасьці асобы й памешканьня — паўнаўладнымі гаспадарамі кажнае хаты, кажнае сям'і, кажнае адзінкі паставілі зьвяружных чэкістых, аддаўшы ў іхныя рукі ўсю Тваю долю, усё Тваё жыцьцё — нат бяз права законнае судовае абароны — усяго Цябе, Беларускі народзе.

Гэткія вось „законы", гэткія парадкі прынёс акупант заміж забясьпечанай канстытуцыяй законнасьці й ладу Беларускае Народнае Рэспублікі.

Сорак год таму ўзьняўшы меч і біч на Цябе ды ўжо трыццаць восем год як бязупынна імі Цябе катуючы, бязьлітасны акупант вынішчыў ды ўсьцяж вынішчае лепшых і найадданьнейшых дзяцей Тваіх, Народзе.

Тысячы сьвятароў із сваймі найвышэйшымі герархамі выгубленыя адно за тое, што несьлі Табе Слова Божае.

Дзесяткі тысячаў найвыдатнейшае культурнае й палітычнае эліты выкатаваныя адно за тое, што верна служылі Табе, Народу свайму.

Панад тры міліёны працоўных, сялянаў і работнікаў, вырваныя з роднага карэньня свайго пакутаваць ды гінуць па катаргах, концлягерах, турмах адно за тое, што любілі Бацькаўшчыну сваю, што не даваліся дабрахвотна няволю прыняць.

Азьвярэлыя ў скрайнім садызьме, крамлёўскія апрычнікі не здавальняюцца пры гэтым адным толькі забойствам-зьнішчэньнем.

Перад забойствам сьвятара — катаваньнямі змушаюць яго публічна перад народам вырачыся Бога, ганьбіць Яго й сябе самога.

Перад зьнішчэньнем пісьменніка, паэты, вымучваюць зь яго песьні славы тыранам сваім.

Перад ліквідацыяй палітычных і грамадзкіх дзеячоў вырываюць у іх паклёпы на сябе, як на бязыдэйных ды прадажных агентаў-„шпіёнаў", „дывэрсантаў" чужых дзяржаваў.

Заўсёды перад фізычным зьнішчэньнем чалавека намагаюцца як мага вырваць, спаганіць і зьнішчыць душу яго.

Гэтак, жудасьнымі катаваньнямі — заганяньнем голак над пазногці, цкаваньнем голых людзей муштраванымі сабакамі, прыпяканьнем гарачым зялезам, электрыкай ды рознымі іншымі прыхваткамі удасканальненай чэкістаўскай тэхнікі змусілі ці мала нашых выдатных талентаў зьневажаць слаўную мінуўшчыну народу ды ўзвышаць крывяжэрных ягоных тыранаў.

Пад гэткім страхам забаранілі нашым пісьменьнікам і паэтам успамі-

Да наступнай бал.

## УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА

ПРАГРАМА

**29-га САКАВІКА 1958 г.**

*А 10:45 РАНІЦЫ* — *Урачыстая Багаслужба ў Катэдры Сьв. Патрыка, пры аўтары Найсьвяцейшае Дзевы Марыі ((Fifth Avenue & 50th St., New York City), якую адправіць а. Францішак Чарняўскі.*

*А 12:30 ПАПАЎДНІ* — *Радыёвая перадача із станцыі WEVD на хвалях AM 1330 і FM 97.9.*

**30-га САКАВІКА 1958 г.**

*А 10:00 РАНІЦЫ* — *Урачыстая Багаслужба ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ (401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N. Y.), якую адправіць Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Васіль у саслужэньні саборнага Духавенства.*

*А 3:00 ПАПАЎДНІ* — *Урачыстая Акадэмія, прысьвечаная Дню 25-га Сакавіка, якая адбудзецца ў BILTMORE HOTEL — Madison Room, (Madison Avenue at 43rd Street, New York City).*

*А 6:00 ПАПАЎДНІ* — *Прыняцьце ў Biltmore Hotel — Room 119.*

## МАНІФЭСТ

**наць славутую старавечную беларускую культуру, загадаўшы адно ўслаўляць уяўны гені й вычыны духу „старэйшага брата — вялікага рускага народу".**

**Паразбуралі старадаўныя помнікі — сьветкі цывілізацыі, вышэйшай за таго „брата" — ды запрыгонілі беларускіх скульптараў ляпіць і стаўляць манумэнты тыранаў Народу нашага — розных Грозных, Пятроў, Суворавых ды ўсялякіх бальшавіцкіх бажышчаў, найноўшых катаў народаў.**

**Павывозілі зь Беларусі багатыя архівы гістарычных дакумэнтаў, што сьветчылі аб магутнасьці й культуры незалежнай калісь Беларускай Дзяржавы, а беларускіх вучоных змушаюць ілгаць аб сваім народзе й ягоным гаспадарсьцьве, якога быццам і „ня было ніколі", настырліва ўводзячы ў вушы жывую й нахабную ману аб „упяршыню падараванай беларускаму народу бальшавікамі" дзяржаўнай незалежнасьці БССР — гэтй зьдзеклівай карыкатуры на самастойнае гаспадарства.**

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ!**

**Трыццаць восем год Ты цярпеў і церпіш нячуваны яшчэ ў гісторыі тэрор, зьдзек і паняверку над сабой. Нявымоўныя мукі фізычныя й маральныя зносіш Ты ад тыранаў. Але ў гэтым, Народзе, і веліч гэраізму Твайго.**

**Падбіты фізычна, Ты не зламаўся маральна.**

**Зьняволеныя паэты й пісьменьнікі, прарокі Твае, ці раз выбухалі гордым і сьмелым бунтарствам супроць панявольніка. Адважная моладзь Твая ці раз хапалася зброі на ката Твайго.**

**Трыццаць восем год, як упалонены мужны ваяр, застаешся Ты ў веры й пэўнасьці ў няміночасьці вызваленьня свайго.**

**ШМАТПАКУТНЫ БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ У КРАІ, НА ССЫЛКАХ, НА ВЫГНАНЬНІ, — у дзень саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі горача вітае Цябе й заклікае й надалей захоўваць сілу духу, станаўкосьць і мудрасьць.**

**Ты ведаеш добра, Народзе, што Ты цяпер не адзін, што ёсьць у Цябе дзесяткі верных сяброў і саюзьнікаў, гэтак-жа ўпалоненых, тым-жа тыранам зьняволеных іншых народаў.**

**Ты ведаеш, што Твая законная ўлада — Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі — трыццаць восем год верна й непахісна трымае ў вольным сьвеце ў руках сваіх штандар волі-незалежнасьці Твае.**

**Ты ведаеш, што дзесяткі тысячаў сыноў і дачок Тваіх на выраі ў вольным сьвеце, верныя запаветам Тваім, нясуць чулую старожу й памогу Табе.**

**Ведай-жа, што й цэлы вольны сьвет сяньня што раз, то пільней, што раз, то глыбей узіраецца ды прыглядаецца да гэраізму Твайго, што далей, то ўсё больш прасякаецца спачуваньнем і спагадай Табе, усё мацней праймаецца ненавісьцяй да тырана Твайго — ворага ўсяго чалавецтва.**

**Дарагія браты й сёстры ў вольным сьвеце! Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі палка заклікаюць Вас усіх яшчэ шчытней задзіночыцца пад сьцягам БНР. Клічам Вас да яшчэ большае ахвярнасьці, да яшчэ больш зацятага й бескампраміснага змаганьня з нашым лютым ворагам — бальшавізмам.**

**Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі зварачаюцца таксама да ўсячэснага духавенства ўсяго вольнага сьвету з просьбай памаліцца сяньня Усемагутнаму, каб даў Ён палёгку цярпеньням народу беларускага ды наблізіў дзень яго вызваленьня.**

**Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі зварачаецца з палкім заклікам да ўсіх пісьменьнікаў, журналістых, пракокаў маралі й справядлівасьці, голасу Сумленьня Вольнага Сьвету — сказаць важкае слова сваё ў вабарону шматпакутнага беларускага народу.**

**Рада й Урад Беларускае Народнае Рэспублікі спадзяецца моцна пачуць і ад палітыкаў, дзяржаўных мужоў народаў цывілізаванага й шчасьлівага Вольнага Сьвету іхнае цьвёрдае слова асуду тырану, што гэтак бязьлюдзка гнобіць народ наш і гэтулькі іншых мілённых народаў.**

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ И НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА!**
**ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ НАРОД У ЗМАГАНЬНІ!**
**НЯХАЙ ЖЫВЕ БРАТЭРСТВА И ЛЮБОЎ МІЖ УСІХ ВОЛЬНЫХ, РОЎНЫХ І НЕЗАЛЕЖНЫХ НАРОДАЎ СЬВЕТУ!**
**ЗЬГІНЬ, ТЫРАНІЯ!**

**25 сакавіка 1958 г.**
**У Нью-Ёрку, ЗША**

**МІКОЛА АБРАМЧЫК**
**ПРЭЗЫДЭНТ**
**БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

## ЗА "НАЙВЫШЭЙШЫ УЗРОВЕНЬ"

Шмат каму выдаецца дзіўным тое назаляньне крамлёўскіх валадароў гаспадарстваым мужом Захаду аб скліканьні канфэрэнцыі на „найвышэйшым узроўні". Здавалася-б, што тых самых вынікаў можна дасягнуць і на канфэрэнцыі „ніжэйшага узроўню" — міністраў замежных справаў. Відаць, бальшавікі не спадзяюцца вытаргаваць ад Захаду якіхсь выгодных для сябе пазыцыяў. Ды ня маюць яны намераў і здаваць сваіх пазыцыяў — гэта для бальшавікоў немагчыма. Надаедлівыя лісты Булганіна Прэзыдэнту ЗША Айзэнгаўэру досыць выразна аб гэтым кажуць. Аднак, выглядае, што скліканьне канфэрэнцыі на „найвышэйшым узроўні" цяпер галоўна мэта савецкае дыпляматыі. Выглядае, што канфэрэнцыя гэтая — для бальшавікоў самамэта.

У вялікай меры так яно й ёсьць: самы факт скліканьня канфэрэнцыі на „найвышэйшым узроўні" будзе падмацоўваць пазыцыі крамлёўскіх валадароў ды будзе паслабляць пазыцыі іхных супаратаў. Бадай ці не найгалаўнейшым вынікам спадзяванай, нажаль, канфэрэнцыі было-б псыхалягічнае ўзьдзеяньне яе на падсавецкае жыхарства. Калі-б бальшавіком удалося яшчэ замацаваць сяньняшняе сваё палітычнае становішча ў сьвеце (палітычнае status quo), дык і ўся мэта іхная была-б дапятая.

Маючы паважную мілітарную сілу, бальшавіком трэба падмацаваць свае пазыцыі ўнутры. Падсавецкае жыхарства ніколі не ўважала, дый цяпер, пэўна, не ўважае, бальшавіцкае ўлады за нейкую нармальную ўладу. Частае зьнішчэньне Сталінам сваіх супрацоўнікаў, потым „разьвянчаньне" самога таго Сталіна й паказ яго перад народам як крымінальнага злачынца, далей зьнішчэньне Бэрыі, апала групы Маленкова, а потым свайго маршала Жукава — усе гэтыя рэчы, бязумоўна, ставяць савецкіх валадароў у ваччу падсавецкага жыхарства, як банду разбойнікаў, з гледзішча навет бальшавіцкіх партыйных дачыненьняў, а ня толькі з пагляду на іхную вартасьць як гаспадарствавых кіраўнікоў. Хіляньне й пераскокі ды агульная няўдольнасьць у галіне гаспадаркі ставіць бальшавіцкую ўладу перад жыхарствам таксама ў найгоршым сьвятле. Пазыцыі бальшавіцкіх верхаводаў, бязумоўна, вельмі слабыя. А клопат з новымі, нядаўна падбітымі народамі-сатэлітамі змушае іх таксама шукаць падмацунку ў сэньсе страты надзеі ў гэтых сатэлітаў на нейкія сусьветныя палітычныя зьмены.

Вось-жа станаўленьне, як гэта кажуць, на адну нагу савецкіх тыранаў з галовамі вольных гаспадарстваў — гэта значыць з нармальнаю народнаю ўладай— падмацоўвае бальшавіцкіх дыктатараў, становіць іх таксама якбы нейкаю нармальнаю ўладаю, чаго бальшавікі так напорыста й дамагаюцца. Каліж-бы ўдалося яшчэ вытаргаваць нейкае прызнаньне ад уладаў вольнага сьвету, якое-б стабілізавала існуючы міжнародны палітычны стан ды падарвала-б надзею ў падбітых бальшавікамі народаў на хуткую палітычную зьмену, дык і бальшавіцкія мэты гэтае канфэрэнцыі былі-б ужо дасягнутымі.

Хіба-ж, найболей, з гэтых пагляду можна вытлумачыць тую напорыстасьць і бессаромнасьць, зь якою бальшавіцкія палітыкі дамагаюцца канфэрэнцыі на „найвышэйшым узроўні", ставячы адначасна перашкоды для наладжаньня запраўдных мірных дачыненьняў. Бо няма прычынаў меркаваць, каб бальшавікі спадзяваліся, а пагатоў, каб Захад пайшоў на нейкае паступленьне сваймі пазыцыямі.

Непатрэбнасьць і шкоднасьць згаданае канфэрэнцыі, відаць, найлепш разумее й найболш засьцерагаецца ў гэтым амэрыканскі Дзяржаўны Сакратар Далес. Нездарма савецкая прэса так злосна на яго наскоквае.

Грамадзкая думка вольных народаў, аднак, у вялікай меры цісьне й схіляе свае ўрады да згоды на гэткую канфэрэнцыю. Вельмі магчыма, што да яе дойдзе, і яшчэ раз бальшавіком зробіцца прыслуга й дасца ім магчымасьць спакайней і надзейней расстаўляць свае захопніцкія сеткі.

*Р-ны.*

## МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАУКА У БРУКСЭЛЕ

17 красавіка сёлета пачынаецца Міжнародная выстаўка ў Бруксэлі, у Бэльгіі. Працаргнеццa яна каля паўгода. Міжнароднае Бюро выставак зарэгістравала сёлетнюю выстаўку ў Бруксэлі, як выстаўку першае катэгорыі, якія могуць быць што шэсьць год. Першая гэткая выстаўка была ў 1851 г. у Лёндане.

На выстаўку запрошана 80 гаспадарстваў. Зь іх заявіліся на ўдзел у выстаўцы 60 гаспадарстваў. Спадзяюцца, што выстаўку наведае да 50 мільёнаў чалавек.

Найбольшымі супаратамі ў гэтай выстаўцы будуць ЗША й Савецкі Саюз. Супараваць з Амэрыкай Савецкаму Саюзу на выстаўках зусім магчыма. На выстаўку Саветы знойдуць шмат рэчаў: і сваіх і купленых, і крадзеных, і заграбленых.

*У амэрыканскім павільёне ў ваддзеле іншамоўнае прэсы будзе й наша газэта „Беларус". Пісьмом адпаведнага дзяржаўнага дэпартамэнту з дня 2-га студзеня рэдакцыя атрымала паведамленьне, што „Беларус" уліганы ў склад іншамоўнае амэрыканскае прэсы, якая будзе на выстаўцы. Гэты (65) нумар нашае газэты ўжо будзе высланы на паданы нам адрыс.*

НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ ВЫКАНАЦЬ СВОИ ГРАМАДЗКІ АБАВЯЗАК.

ЗЛАЖЭЦЕ ДАР САКАВІКА У КАСУ ФОНДУ Б Н Р.

## БРАНІСЛАЎ ЭПІМАХ - ШЫПІЛА



У 1959 годзе міне сто год з дня нараджэньня аднаго з найбольш уплывовых ды аднаго з найменш ведамых шырэйшаму грамадзтву дзеяча беларускага культурнага адраджэньня прафэсара Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Ніжэй мы падаём даступныя нам весткі з жыцьця й дзейнасьці гэтага выдатнага сына беларускага народу.

— ❖ —

Браніслаў Эпімах-Шыпіла нарадзіўся 4 чырвеня 1859 году ў хвальварку Будзькаўшчына, Лепельскага павету Віцебскае губэрні. Скончыўшы гімназію, Б. Эпімах-Шыпіла пайшоў на факультэт клясычных моваў Пецярбурскага гістарычна-філялягічнага інстытуту. Ён вывучыў больш за 20 старадаўных і новых эўрапейскіх моваў, якімі валодаў дасканальна.

Б. Эпімах-Шыпіла блізка ведаў найбольшага беларускага паэту XIX ст., Францішка Багушэвіча, зь якім ліставаўся, ды быў знаёмы зь ведамым беларускім краяведам і этнаграфам А. Сапуновам, зь якім падтрымваў сталую сувязь. Навучоны цікавіўся ўсім, што мела дачыненьне да Беларусі. Ён зьбіраў помнікі беларускае культуры, старыя друкаваныя кнігі, летапісы й рукапісы ўсіх беларускіх пісьменьнікаў, старых і сучасных.

У 1889 г. Эпімах-Шыпіла пачаў складаць вялікі рукапісны зборнік вершаў малаведамых і няведамых беларускіх паэтаў-самавукаў, якія нідзе не друкаваліся. У гэным-жа годзе ён пастанавіў заснаваць беларускі музэй, у васнову якога павінны былі быць пакладзены назьбіраныя ім багатыя матар'ялы й калекцыі. Для гэтае мэты ён пабудаваў у Залесьсі дом, які па некаторым часе згарэў.

З 1902 г. Б. Эпімах-Шыпіла выкладаў старавечныя мовы у пецярбурскіх вышэйшых навучальных установах. Адначасна ён працаваў старшым бібліятэкарам Пецярбурскага ўнівэрсытэту. У 1925 г. праф. Эпімах-Шыпіла быў абраны за правадзейнага сябру Інстытуту Беларускае Культуры, а ў 1928 г. — за правадзейнага сябру Беларускае Акадэміі Навук. У 1929 г. ён перадаў Акадэміі сваю вялікую бібліятэку, якую зьбіраў на працягу 40 год і якая складалася з 5 тысячаў кніг.

Зь ініцыятывы Б. Эпімаха-Шыпілы быў створаны беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбурскага ўнівэрсытэту. Паседжаньні гуртка адбываліся на кватэры ў прафэсара. 13 травеня 1906 г. на ягоную ініцыятыву ды пры ягонай матар'яльнай памозе было створана ў Пецярбурзе беларускае выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца", якое за шэсьць год свайго існаваньня выдала 22 кнігі беларускіх аўтараў.

— ❖ —

У 1946 г. у Маскве-Ленінградзе выйшла кніжка ўспамінаў акадэміка І. Крачкоўскага „Над арабскімі рукапісамі", у якой акадэмік Крачкоўскі, беларускі мусульманін з паходжаньня, піша пра Эпімаха-Шыпілу гэтак.

„Эпімах-Шыпіла быў асобай своеасаблівай і ўсебаковай. Маленькі, таўсьценькі, увесь нейкі кругленькі, акуратна падстрыжаны „пад вожыка", ня ў прыклад іншым ён заўсёды быў чыста апрануты, крыху навет з прэтэнзіяй на харашаваньне, уласьцівае часамі старым бабылём. Пра яго я чуў яшчэ гімназістым, дзеля таго што ён зрэдку прыяжджаў працаваць у Вільню ў Публічную бібліятэку і ў Архіў, галоўна над гісторыяй Беларусі. Першую частку ягонага прозьвішча „Эпімах" я ўважаў за імя ды ці мала дзівіўся з гэтага дзіўнага зьбегу. Усе студэнты, што жадалі займацца ў унівэрсытэцкай бібліятэцы, перш за ўсё траплялі да яго: ён сядзеў за сталом ля самага ўваходу, і ягоным абавязкам было выпісваць карткі з прозьвішчам на права атрымаць кніжку. Нам заўсёды аж млосна рабілася ад маруднасьці й дакладнасьці, зь якой ён гэта рабіў, праўда, зь непаўторным каліграфічным мастацтвам, асабліва ў хітрамудрых завітушках подпісу ягонага нязвычайнага прозьвішча. Будучы з асьветы надзвычай грунтоўным філялёгам-клясыкам, ён выкладаў палаціне грэцкую мову ў Рымска - каталіцкай духоўнай акадэміі, што зьмяшчалася тады на першай лініі Васілеўскага абтоку ў доме, дзе калісьці была Расейская Акадэмія, Пасьлей я даведаўся, што ён уважаўся за знаўцу й іншых, часамі зусім нязвычайных галінаў веды, займаючыся ледзь ня гісторыяй царкоўнага адзеньня. З адным бокам ягонае дзейнасьці я пазнаёміўся даволі блізка, хоць ён стараўся якнайменш пра гэтую дзейнасьць выслаўляцца із зусім зразумелых для таго часу прычынаў: ён быў выдатным дзеячом беларускага літаратурнага адраджэньня. Цудоўна валодаючы беларускай мовай у гутарцы і ў старых дакумэнтах, сам ён мала выступаў у друку, але ўсялякім спосабам падтрымваў беларускае выдавецтва ды Беларусаў, якія траплялі ў Пецярбург. Выдатны пасьлей паэта Янка Купала быў забавязаны шмат чым мала каму ведамаму з гэтага боку ўнівэрсытэцкаму бібліятэкару. Гэткімжа энтузіястым беларускага руху быў і ягоны брат, ні то акцызны, ніто кантрольны чыноўнік; разам яны ставілі аматарскія спэктаклі ў беларускай мове, што для пачатку XX стагодзьдзя было вялікай і сьмелай навіной. Доля не ўзнагародзіла яго за ўсю гэтую безкарысьлівую самаахвярную дзейнасьць. Аднаго разу ён быў запрошаны ў Менск для працы над беларускім слоўнікам, аднак неўзабаве яму давяліся пакінуць сталіцу Беларусі. Вярнуўшыся ў Ленінград зусім старым, ён тут памёр, прагараваўшы колькі месяцаў, дармо, што пасільна памагалі ня вельмі лічныя ягоны бібліятэчныя сябры суслужбоўцы й прыяцелі, што памяталі яго.



## НА ШЛЯХУ ЖЫЦЦЯ (Заканчэньне)

ўжыцьцёўленьне сваіх ідэалаў народнае волі й людзкае праўды. Білянс стратаў у людзях і рэчкі народнае крыві даводзяць да вялікага суму й жаху. Беларусь за свае нацыянальныя правы й волю злажыла вельмі-ж шчодрую ахвяру народнаю крывёю. Гэтая кроў будзе клікаць заўсёды сыноў і дачок Беларусі да ўзмацненьня змаганьня за праўду й волю народную. Яна заўсёды будзе прыпамінаць тым, хто апынуўся паза савецкай катаргай, аб іхным абавязку змаганьня ды помсты за разьлітую кроў. І кажная людзкая беларуская душа ня будзе супакоеная даволі датуль, пакуль над народам будзе панаваць зьдзек і паняверка.

Схіліўшы галаву ў сумоце над палеглымі ахвярамі, мы, аднак, з надзеяю і ўцехаю прыглядаемся да фактаў сучаснасьці: ува ўсіх гаспадарствах вольнага сьвету ўздымаецца голас Беларусаў у абарону волі свайго народу. Не замоўк зусім народ і ў паднявольлі. Ён паказвае сваю жывую душу ды, як магчыма, бароніцца ад зьнішчальнае сыстэмы нявольніцтва ды, як мага, змагаецца за свае нацыянальныя правы. Прайшоўшы сорак год катаржальнае няволі, панёсшы, здавалася-б, непамерныя ахвяры ў змаганьні, народ здабыўся на дадатны вынік.

І можна толькі жадаць напрыканцы: няхай-жа кажны вольны Беларус так рупна й шчыра возьме ўдзел у змаганьні за народную волю, як цярпліва з надзеяй на лепшую будучыню зносіць увесь наш народ страшную пакуту.

*С. Міхалеўскі*

## Беларусы хочуць усей праўды аб Янку Купалу

Канец. Гл. № 64.

Як піша Зінаіда Бандарына, калі абшарнік прадаў хвальбарак Юзафова, і Луцэвічы сталіся яму непатрэбныя, дык яны змушаныя былі зьяжджаць, але на сваім кані й на сваім возе, а гэта было тады, калі адцьвіталі сады, калі яны маглі пад кажным кустам спыніцца на начлег. Ды калі Дамінік пытаўся ў сялянаў, ці ня чулі яны, дзе зямля прадаецца, дык напэўна ён меў у кішані сотку ці другую рублёў. Ды напэўна й абшарнік нешта заплаціў, што поле засеяў, хоць Зінаіда Бандарына аб гэтым і ня пісала. А калі Банігна із сваёй сям'ёй сталася непатрэбная маскоўскаму абшарніку, дык ён забраў сабе й зямлю з засеяным жытам, і коні, і статак, і збожжа, а даў толькі тры пуды промешкі (мука з ачысткі пасьля памолу), ды яшчэ й вёз на пакуту, адкуль ніхто не варачаецца. Калі маскоўскі абшарнік вёз Банігну на ўсход, дык таксама пад кустом адпачывала, але ў вабмёрзлай адзежы й на марозе. Калі там Банігна нешта магла думаць, дык напэўна зайздравала свайму Дамініку, што малады памёр і не дачакаўся гэткага зьдзеку з жывога чалавека, да якога яна дажыла. А ейная дачка напэўна наракала на Бога, што ня даў ёй сьмерці разам зь ейнымі маленькімі сёстрамі. А Янка, калі рабіў на сябе страшны замах, дык бязумоўна зайздраваў свайму брату Казіку, што не дажыў гэткага зьдзеку. Янка Купала, калі трохі ачуняў ад свае раны ды калі пачуў, што матку й сястру вывезьлі, дык і пачаў абіваць парогі розным верхаводам НКВД, каб вярнуць матку й сястру. Хто ведае, можа ён там прырок свой Божы дар — сваю паэзію — на паслугу бальшавіком, каб выратаваць ад вечнай пакуты й загубы сваю старэнькую матку й сястру? А гэта пэўна так.

Янка Купала паехаў у Барысава й прывёз сваю старэнькую матку й сястру, але ня ў іхную хату ў Акопах, а ў сваю хату ў Менск. Дый самога Купалу ў ягоную хату ў Акопы ня пушчалі, а гэта азначала, што й яго самога „раскулачылі".

Калі хто жыў у Менску перад вайной, дык у часе пробных бальшавіцкіх алярмаў мог бачыць на Кастрычніцкай вуліцы супраць лазьні Паплаўскага, дзе жыў Янка Купала, старэнькую бабульку гадоў каля 80-цёх у беленькім хвартушку; гэта была Банігна Луцэвіч.

Калі Немцы 23 і 24 чырвеня 1941 г. збамбілі Менск, а бальшавікі з 24 на 25 чырвеня спалілі, дык тады згарэла й хата Янкі Купалы. Банігна Луцэвіч, як і іншыя Беларусы раскулачаныя бальшавікамі, вярнулася ў сваю хату ў Акопы. Няведама, як яна магла дастацца пры сваёй старасьці такімі жудаснымі часамі, бо тады ніякага транспарту ня было. Усім сялянам, якіх бальшавікі павысылалі з сваіх хатаў і якія здолелі зноў вярнуцца ў гэтыя хаты, нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі калгасам выдаваць андынарыю, як і тым, хто працавалі ў калгасах. Калі прыехаў у Менск бурмістрам праф. В. Іваноўскі, дык ён асабіста заапекаваўся Банігнай Луцэвіч. Калі яна памерла ў чырвені 1942 г., было апавешчана ў „Менскай Газэце".

Зараз-жа па сьмерці маці трагічна загінуў у Маскве й Янка Купала. Абставіны сьмерці дакладна няведамыя, але розныя чуткі ходзяць аб гэтым. Адны кажуць, што ён у Маскве выкінуўся з га-

## Прэзыдэнт БНР у ЗША

2 лютага сёлета ў ЗША прыбыў Прэзыдэнт БНР інж. М. Абрамчык на колькітыднёвы пабыт. Мэта прыезду ў Амэрыку Прэзыдэнта БНР — супольнае абмеркаваньне з урадам БНР актуальных праблемаў ды наведаньне паасобных беларускіх асяродкаў у ЗША ды Канадзе. У пляны дзейнасьці Прэзыдэнта ў Амэрыцы ўваходзяць таксама нарады зь сябрамі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) у справе далейшае палітычнае акцыі.

9 сакавіка, у 40-я ўгодкі абвешчаньня Другое Ўстаўное Граматы, на паседжаньні сяброў Рады БНР у Нью Ёрку Прэзыдэнт Абрамчык зрабіў рэфэрат на тэму палітычнага міжнароднага палажэньня ды зьвязанае зь ім беларускае вызвольнае справы на бацькаўшчыне і ў заходнім сьвеце.

———— ❖ ————

## АМЭРЫКАНСКІЯ ІНДЫЯНЕ

У нядзелю 1 сакавіка сёлета беларуская танцавальная група ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА брала ўдзел у канцэрце народных танцаў побач зь Ірляндцамі й Амэрыканскімі Індыянамі. Пра гэтых апошніх падаем колькі словаў інфармацыі.

—оОо—

На прасторы ад Флярыды да штату Вашынгтону жыве каля 300 індыянскіх племяў ды групаў, нашчадкаў „зьнікаючых Амэрыканцаў".

Індыянскага жыхарства, якое налічвала ў часы Калюмба 800 тысячаў асобаў, а на пераломе XX ст. — каля 240 тысячаў, цяпер у ЗША каля 500 тысячаў. Цяпер, у парадку ўрадавага закону аб дабраахвотным перасяленьні, штораз больш Індыянаў пакідае свае аселішчы да пасяляецца ў местах.

Амэрыканскі Індыянін сяньня зусім не падобны да пашыранага ілюстратыўнага вобразу Індыяніна зь пёрамі й сякерай. Сяньняшнія Індыяне — гэта цэлы рад розных народнасьцяў і нацыянальнасьцяў. Сярод іхных прашчураў у Цэнтральнай і Паўдзённай Амэрыцы былі стваральнікі вялікіх імпэрыяў, добрыя земляробы, астраномы, будаўнікі, ткачы, ганчары й прамоўцы.

Адно некаторыя Індыяне ў ЗША трымаюцца цяпер плямённага способу жыцьця, найбольш Сэміholi з Флярыды. Яны займаюцца лавецтвам, жывёлагадоўляй у двух рэзэрватах ля возера Окічобі. Афіцыйна яны яшчэ не падпарадкаваліся дзяржаве.

Аднак, як цэласьць, Індыяне штораз больш пераймаюць спосаб жыцьця белага чалавека. Яны сталіся грамадзянамі ЗША ў 1924 г. Асабліва шмат зьменаў у жыцьці Індыянаў выклікала II-ая сусьветная вайна.

## ЭКАНАМІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ БССР

Чырвенскі нумар „Камуніста Беларусі" за 1957 г. апублікаваў некаторыя дадзеныя што да прамысловасьці БССР, не ўваходзячы ў праўдзівасьць якіх падаем ніжэй.

У БССР вырабляецца цяпер у працэнтным дачыненьні да цэлага СССР „значны працэнт трактараў, 8,1% мэталярэжучых станкоў, 10% матацыкляў, 16% самакатаў". БССР сяньня складае толькі 1% тэрыторыі Савецкага Саюзу і налічвае 4% жыхарства СССР. Унутры самое Беларускае рэспублікі 60% прамысловасьці сканцэнтравана ў васьмёх местах: Менску, Гомелі, Віцебску Магілеве, Бабруйску, Барысаве, Воршы й Рэчыцы. Валавая прадукцыя прамысловасьці БССР згодна з плянам на 1957 год мела скласьці 23 мільярды рублёў.

Да гэтага трэба дадаць, што прамысловыя вырабы Беларусі, як машыны, мэбля, папера ды розныя іншыя пераважна вывозяцца за межы краю — як у Маскоўшчыну, Кітай, Ўэтнам ды іншыя усходнія краіны — тады калі на Беларусі гэтых вырабаў стала не хапае.

Але Масква з гэтым ня лічыцца, як ня лічыцца і з тым, якія вырабы патрабнейшыя на Беларусі, ці выраб якіх лепш-бы аплачваўся. Маскоўская каляніяльная палітыка на Беларусі у найгоршым выглядзе праводзіцца безагляднна.

## САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА ПРЫ ДАПАМОЗЕ ШАНТАЖУ

„Камуніст Беларусі" — галоўны ворган ЦК Камуністычнае партыі Беларусі — у сваім перадавым артыкуле за верасень месяц леташняга году забіў быў трывогу ў сувязі з катастрафальным станам жыльлёвага будаўніцтва ў БССР. „КБ" прызнаецца, што „да апошняга часу тэмпы прамысловага будаўніцтва апярэджвалі будаўніцтва жыльля". Усё гэта давяло да таго, што па беларускіх местах і сёлах „значная колькасьць сем'яў жыве ў старых дамох" (чытай: бараках). Як выглядае з усіх далейшых вестак, палепшаньня ў гэтай справе не прадбачыцца, а наадварот — старыя дамы развальваюцца.

З гэтае нагоды аднак, варта паказаць, як камуністычная партыя на Беларусі, выкарыстоўваючы цяжкі стан з жыльлёвым будаўніцтвам, намагаецца шантажаваць жыхарства пры выкананьні сацыялістычных нормаў вытворчасьці. У тым-жа нумары „КБ" прыгадваецца, што галоўнай фінансавай крыніцай для жыльлёвага будаўніцтва павінны быць прэміі за посьпехі ў сацыялістычным спаборніцтве. Адсюль камуністыя выводзяць заключэньне, паводля якога можна атрымаць страху над галавой. „КБ" заяўляе: „Каб атрымаць дадатковыя сродкі на новыя кватэры, неабходна шырэй разгортваць спаборніцтва за эканомію ўва ўсім, за зьмяншэньне браку за звышплянавыя накапленьні"...

Значыцца, раней сацыялістычная норма на галодны жывот, а пасьля бюракратычная цяганіна, каб атрымаць кватэру.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

*Byelorussia's Independence Day* March 25, 1918, New York, 1958, pp. 77.

Кніжка на 80 балонак друку, памерам вялікае восемкі. У тэксьце: тры ўстаўныя граматы Беларускае Народнае Рэспублікі, чатыры балонкі інфармацыйнага матар'ялу аб Беларусі, рэшта — праклямацыі амэрыканскіх губэрнатараў дня Беларускае Незалежнасьці, кангрэсавыя запісы, прамовы сэнатараў і кангрэсмэнаў ды тэксты прывітальных тэлеграмаў да дня 25 Сакавіка ад некаторых афіцыйных амэрыканскіх рэпрэзэнтантаў. Выданьне гэтае мае прапагандавую мэту, перш-наперш сярод амэрыканскага грамадзтва.

Інфармацыя аб Беларусі ды прапаганда беларускае справы, абапёртая на дакумэнтах і фактах, бязумоўна, мае паважнае значаньне, і з гэтага гледзішча кніжка мае сваю вартасьць. Аднак, зьмест кнігі ня зусім адпавядае назьве, бо „Беларускі Дзень Незалежнасьці" абмежаваны адно да Амэрыкі. Не ўдаючыся глыбей у вацэну гэтае кніжкі, уважаем за патрэбнае ўзяць увагу на дзьве паважнейшыя недакладнасьці:

Першая, у кніжцы зьмешчаная карта Беларусі маскоўскага акадэмічнага выданьня, аўтар М. Чэрных, з паясьненьнем, што карта недакладная ў еньных паўдзённых і заходніх межах. Кажнаму чытачу міжволі насунецца пытаньне: чаму-ж не падалі дакладнае карты?

У кажным разе, у гэткім юбілейным выданьні мусіла-б быць карта з праўдзівымі й дакладнымі межамі Беларусі.

Другое, — пададзеная фатаграфія Пётры Крэчэўскага, як першага Прэзыдэнта БНР. Пётра Крэчэўскі быў трэцім Прэзыдэнтам, а ня першым. Гэткімі дэзінфармацыямі падбіваецца аўтарытэтнасьць кніжкі.

Выдаўцом кнігі падаецца Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, няведама пад чыёй рэдакцыяй. Дык і адказных асобаў як-бы й няма. Гэта яшчэ адзін мінус выданьня.

* * *

## ТВОРЫ МІКОЛЫ КАСАКА НА ВЫСТАЎЦЫ

У сакавіку с. г. у Riverside Museum у Нью Ёрку (Riverside Drive & 103rd Street) адбываецца 22-я гадавая выстаўка згуртаваньня Абстрактных Мастакоў Амэрыкі. На выстаўцы паказаная праца „Канструкцыя нэгатыўных прастораў" ведамага беларускага мастака Міколы Касака.




тэлю праз вакно на брук. Іншыя кажуць, што ён ня сам выкінуўся, але яго выкінулі бальшавікі, бо перад гэтым яго сьпешна патрабавалі прыехаць у Маскву.

Калі толькі бальшавікі яго выкінулі праз вакно ці жывога ці задушанага, дык гэта толькі ім і ведаць, а мы аб гэтым калі й даведаемся, дык адлі тады, калі ў Маскве скончыцца бальшавіцкая ўлада. А калі ён сам выкінуўся, дык толькі затое, што бальшавікі далі яму да выкананьня заданьне, якога не хацеў выконваць. Бо ён толькі тады выконваў бальшавіцкія патрабаваньні, калі гэтым ён ахоўваў жыцьцё свае маткі.

Так ці йнакш, але бальшавікі прычыніліся да ягонае бясчаснае сьмерці. І толькі ў бальшавікоў стае такога нахабства, каб забіць чалавека, а потым яго ўхваляць ды помнікі ставіць. Так, прыкладам, яны зрабілі з Палякамі, калі 12 тысячаў замардавалі ў Катынскім лесе, а потым і помнік паставілі, як сваім прыяцелям.

Шмат хто навет зь сьведамых Беларусаў наракае на Янку Купалу ды на Якуба Коласа, што яны прадаліся маскоўскім бальшавіком, што для іх саміх было-б лепш фізычна загінуць, чымся жыць і служыць сваім варагом, а таксама варагом усяго беларускага народу. Нам здаецца, што гэтыя нараканьні несправядлівыя, бо адзін гэтай прыслугай ратаваў сваю матку ад страшных пакутаў і бясчаснае сьмерці, а другі ратаваў жыцьцё сваіх дзяцей. Ды напэўна яны абодва спадзяваліся перажыць бальшавікоў.

Вялікі нямецкі паэта Гётэ, каб паказаць людзям, як дорага чалавеку маладосьць, у сваім няўміручым творы „Фауст" апісаў, як стары манах навуковец прадаў чорту душу, каб хоць на кароткі час вярнуць маладосьць.

Вялікі беларускі паэта Янка Купала зь любасьці й пашаны да свае старэнькае маткі змушаны быў закласьці свой Божы дар, сваю паэзію, вырадкам людзтва — маскоўскім бальшавіком за жыцьцё свае маткі.

Беларускі народ уважае Янку Купалу за свайго вялікага паэту й змагара за волю беларускага народу за тыя творы, якія паэта напісаў да 1930 г., а за гэта народ хоча ведаць усю праўду аб Янку Купалу. Нам трэба не падхварбаваныя ўрыўкі з жыцьця Янкі Купалы, як гэта рабіла Зінаіда Бандарына, а дакладныя весткі.

Мы ня маем ведамак, аб сямейным жыцьці Луцэвічаў, ад самага пачатку паўстаньня гэтае сям'і. А нас цікавіць як індывідуальнае сямейнае жыцьцё, так і матар'яльнае. Якія прыгоды перажыла гэтая сям'я да пасяленьня ў Акопах? Як жылося ў Акопах да бальшавікоў і за бальшавікамі? Які стан гаспадаркі быў пры „раскулачаньні"? Каму застаўся той дом, што Янка Купала пабудаваў сам на свае грошы? Якім чынам і з кім вярнулася старэнькая Банігна на сваю сялібу ў Акопы? Якія былі прычыны сьмерці Янкі Купалы? Пытаньняў шмат — іх не пералічыць.

Усе гэтыя пытаньні цікавяць беларускі народ, і ён не заспакоіцца, пакуль гэтыя пытаньні ня будуць высьветленыя.

*Зебінскі.*

**Ад рэдакцыі.**

Рэдакцыя не бярэ на сябе адказнасьці за праўдзівасьць пададзеных у гэтым артыкуле фактаў. Магчыма, што ёсьць тут недакладнасьці ці перастаноўкі некаторых здарэньняў у часе. Аднак закранутая справа й пастаўленыя пытаньні й цікавыя й паважныя. Спадзяёмся, што пададзены тут артыкул спрычыніцца да большага асьвятленьня жыцьця й дзейнасьці Янкі Купалы.

## ХТО СПАЛІЎ МЕНСК?

Бальшавікі, як у пэрыядычнай прэсе, гэтак і ў вадмысловых выданьнях (Минск. Справочник путеводитель. 1956 г. ды ін.) пахваляюцца адбудоваю сталіцы Беларусі Менску, спаленага ў 1941 годзе, ды не забываюцца пры гэтым палаяць Немцаў, што быццам-бы спалілі Менск.

Калі 22 чырвеня 1941 г. у нядзелю пачалася вайна, дык нямецкая авіяцыя пачала рабіць налёты на Менск. Гэтыя налёты адбываліся ў панядзелак і асабліва ў аўторак. Было зруйнавана шмат будынкаў, пабіта й пакалечана шмат людзей, але вялікіх пажараў ад авіяцыйнага бамбардаваньня не паўстала.

Жыхары Менску добра ведаюць, хто быў падпальшчык. Адзін жыхар з Камунальнае вуліцы расказвае, што калі скончылася бамбардаваньне ў аўторак, і людзі пачалі супакойвацца ды зыходзіцца ў свае дамы, дык раптам з боку Старажоўскае вуліцы шырокім фронтам пачаў наступаць агонь, ад якога давялося ўцякаць на Стара-Віленскую вуліцу.

Другі жыхар Старажоўскае вуліцы апавядае, што за нейкую паўгадзіну пасьля апошняга бамбардаваньня яму зарупіла пабачыць, што дзеецца на вуліцы. Гэтым самым часам выйходзіў на вуліцу й ягоны сусед. Яны толькі перагаварыліся міжсобку, аж бачаць, што ў кольkіх месцах сьцены дамоў загараюцца. Яны пачалі пяском гасіць гэтыя сьцены, аж высоўвае галаву з-за варотаў трэйці сусед ды паказвае рукою ўдоўж Старажоўскае вуліцы. А там два НКВД-ыстыя йдуць ўдоўж Старажоўскай вуліцы ў кірунку Трамвайнага парку ды страляюць запальнымі кулямі ў кажны дом з правага боку вуліцы. Гэтыя людзі пакінулі гасіць агонь ды пабеглі, каб вынесьці што з хаты.

Раптам уся Камароўка ад Стара-Віленскае вуліцы праз Трамвайны парк ды аж на другі бок Савецкае вуліцы, а з заходняга боку аж па Сьвіслач, залілася морам агню. Вайсковы шпіталь згарэў зь цяжка хворымі й цяжка раненымі вайскоўцамі. Толькі здаравейшыя здолелі выврацца з агню ў вадным споднім. На другі дзень яны сноўдаліся па зарасьніку ў Зялёным Лузе.

За дзьве гадзіны гэтая вялізарная плошча ператварылася ў голае пажарышча. Толькі дзе-нядзе па гэтым пажарышчы дымеліся высокія мураваныя будынкі. Адзін будынак кашараў застаўся цэлы, але наўкола ўжо ўсё было пуста. Раптам і гэты будынак загарэўся. Тымчасам загарэлася й школа АБВС (былая духоўная сэмінарыя), але толькі палавіна згарэла ды сама сабой пагасла. Тады-ж загарэўся й высокі новы дом на Камунальнай вуліцы супраць 2-ой савецкай больніцы. Там надоле быў вялікі прадуктовы магазын, а на вышэйшых паверхах кватэры савецкіх вяльможаў. Гэты дом звалі „3-ці Дом Саветаў". Цікавае было відовішча, калі перад вечарам гарэў гэты дом. Ён нагадваў сабой як-бы высокае дрэва, растучы з агнявым суччам, бо праз вокны шыбалі даўгія агнявыя языкі.

А вось гатэль „Эўропа" на пляцы Волі — краса дарэвалюцыйнага Менску. Бальшавіком трэба было ня толькі спаліць яго, але й ўзарваць, разбурыць. Цэлую ноч з аўторка на сераду над цэнтрам места стаялі няўпынныя чорныя хмары дыму. Гэтае начы паліліся будынкі на Савецкай і Ленінскай вуліцах, дый на іншых вуліцах цэнтру места. Усе будынкі ўнівэрсытэцкага гарадка неяк уцалелі, толькі галоўны корпус, што быў заняты пад штаб Беларускай Вайсковай Акругі, згарэў.

Неўзабаве пажары пачаліся па ўсіх раёнах Менску. Жыхары, бачачы панічныя ўцёкі бальшавікоў, хапіліся нарэшце за самаахову. Па скрайных раёнах, куды агонь яшчэ не дасягнуў, яны пачалі ставіць старожы, якія прагнялі падпальшчыкаў-камсамольцаў, што бальшавікі зарганізавалі адмыслова для падпалу места. Дзякуючы гэтым старожам, ад пажару ўцалелі сякія-такія жыльлёвыя кварталы. Але блізу ўсё места было спрэс выпаленае, а дым ад пажару засьцілаў смугою ўвесь небасхіл уводдаль на сотні кілямэтраў.

Праўда, усё-ж ткі Менск быў менш зьнішчаны агнём, чымся іншыя месты ўсходняе Беларусі, як Магілеў, Віцебск, Ворша, Смаленск ды інш. Гэта тлумачыцца тым, што зь Менску бальшавікі пасьпяхова ўцякалі, дык палілі толькі тое, што перш пад рукі пападала. А на ўсходзе Беларусі яны мелі болей часу, дык там былі вылучаныя адмысловыя падпальныя каманды з камсамолу (асабліва з камсамолак), якія аблівалі будынкі бэнзынаю й падпальвалі. Мне давялося чуць ад старога чалавека віцьбляніна, што там старыя закалолі вілкамі камсамолку, якая падпальвала будынкі.

Паленьне гарадоў і вёсак — гэта дзікае зьверства расейскіх бальшавікоў. Гэтым яны пазбавілі сотні тысячаў беларускага жыхарства страхі над галавою, адзеньня, нацеліва ды іншай маемасьці, патрэбнай для штодзённага ўжытку. Але гэтае зьверства блякне перад другім іхным зьверствам, калі яны гэтым самым часам спалілі ў Баранавічах на станцыі аж эшалон беларускіх дзяцей і жанок, нічым ня вінных навет перад бальшавіцкай уладаю. Сталася так. Забралі „кулакоў" — гаспадароў сем'яў — на прымусовыя работы (у канцлягеры), а жонак іхных і дзяцей пакінулі дачасу на месцы. Калі-ж пачалася вайна, дык забралі гэных жонак і дзяцей ды пасадзілі ў вагоны, каб везьці іх у глыбіню Расеі. Але калі Немцы шпаркімі тэмпамі падаліся на ўсход, дык бальшавіком ня было часу вывезьці іх, дык спалілі на станцыі Баранавічы гэтых няшчасных жанок і дзяцей у заплямбаваных вагонах. А гэткіх выпадкаў на Беларусі чуваць шмат.

І ці-ж гэтае расейскае зьверства першае на Беларусі? Не, ня першае і, відаць, не апошняе. Ня будзем глыбака капацца ў беларускай гісторыі, але адхінем балонку нашае гісторыі на 250 год назад. Калі швэдзкі кароль Караль XII набліжаўся да Магілева, дык каб Швэды не знайшлі сабе ні жыўнасьці ні кватэраў у Магілеве, маскоўскі цар Пётра І-ы загадаў сваім палком абрабаваць места, а пасьля з розных канцоў запаліць. „Распачлівыя крыкі, енкі й плач чуліся з дамоў, ахопленых поламем" — кажа адзін гісторык (Б.-Карніловіч). „Вялікае места з гэтулькімі крамамі, цэрквамі было ператворанае ў руіны, зь якіх тырчалі печы з высокімі камінамі, што сьветчыла, што тут нядаўна панаваў дабрабыт і дастатак". Гэта адбывалася 8 верасьня 1708 г. І йзноў-жа ў гэтага самага гісторыка чытаем: „Цар Пётра І-ы кружнымі шляхамі даведаўся, што грамадзяне места Віцебска назьбіралі 7 тысячаў талераў для швэдзкага войска, якое стаяла на Беларусі, дык ён загадаў места Віцебск запаліць з чатырох канцоў". Калі-б запраўды гэтыя грошы былі зьбіраныя, дык найхутчэй як кантрыбуцыя для швэдзкага акупацыйнага войска, бо кароль Рэчы Паспалітай Аўгуст II абвесьціў Швэдам вайну, а Беларусь тады належала да Рэчы Паспалітай, а не да Масквы.

Калі расейская армія ў 1812 г. адыходзіла перад армяй Напалеона, дык гэтаксама ўсё паліла й нішчыла на сваім шляху, каб француская армія не магла знайсьці месца для адпачынку й харчаваньня. А што беларускі народ ад гэтага гінуў, дык Расейцаў гэта не абходзіла.

Безьліч ахвяраў спрычыніла Першая сусьветная вайна. Калі мы, як жаўнеры расейскае арміі, паказваючы на вымучаных дарэшты беларускіх сялянаў-бежанцаў, якія каля дарогі хавалі сваіх нябожчыкаў, зазначылі аднаму ахвіцэру — абшарніку Варонескае губэрні — што зашмат руйнуецца народнага багацьця й зашмат гіне без патрэбы бязьвінных людзей, дык ён сказаў: „Ничего, Москва еще далеко".

У лютым 1918 году, колькі дзён пасьля таго, як бальшавіцка-нямецкія перамовы былі зырваныя, зь лёгкае рукі Леніна, як старшыні Савету Народных Камісараў, зьявіўся (апублікаваны 22 лютага 1918 г.) дэкрэт „Сацыялістычная бацькаўшчына ў небясьпецы". Бальшавіком даводзілася ўцякаць зь Беларусі. Вось якія „парады" даваліся ім у ленінскім „дэкрэце":

„Чыгуначныя арганізацыі й зьвязаныя зь імі Саветы забавязаныя ўсімі сіламі ня даць ворагу выкарыстаць апарату шляхоў лучнасьці; пры адступленьні зьнішчаць шляхі, узрываць і паліць чыгуначныя будынкі: увесь рухомы склад — вагоны й паравозы — безадкладна сьціроўваць на ўсход. Усе збожжавыя й наагул харчовыя запасы, а таксама ўся каштоўная маемасьць павінны быць безагляднa зьнішчаныя".

Маскалём заўсёды было лёгка адступаць зь беларускае зямлі. Нішчылі бо яны не сваё дабро . . .

Ня трэба ні памятаць, ні закрываць зьверстваў нямецкіх нацыстаў, але гэтымі нямецкімі зьверствамі нельга закрываць зьверстваў расейцаў.

*Гаравы*

## Весткі з БССР

### У ЦЕНІ САВЕЦКІХ САТЭЛІТАЎ

„Дзе купіць хатнюю мэблю"? — пытаецца ў лісьце ў рэдакцыю менскае „Зьвязды" (4. І. 58) хатняя гаспадыні з Расонскага раёну. У раёне нельга купіць ні этажэркі, ні кухоннае шафкі, ні тумбачкі. Па іх даводзіцца езьдзіць у Полацак за 60 км.

### ГІСТАРЫЧНА-КРАЯВЕДНЫ МУЗЭЙ

У БССР зарганізаваная група для стварэньня Беларускага дзяржаўнага гістарычна-краяведнага музэю. Група зьбірае матар'ялы, што датычаць да мінулага, а таксама экспанаты, якія характарызуюць прыроду роднага („Зьвязда", 5. І. 58).

### ПЯРУНЫ НАД МЕНСКАМ У СТУДЗЕНІ

18 студзеня 1958 году над Менскам, упяршыню напрацягу апошняга стагодзьдзя, блiснула маланка й загрымеў гром. Навальніца суправаджалася сьнежным шквалам, каля 15-20 часінаў („Зьвязда", 19. І. 58).

### ВУЧНІ ПРЫ АДБУДОВЕ КАСЬЦЁЛУ

На берасьцейскай абласной камсамольскай канфэрэнцыі, у дакладзе сакратара абласнога камітэту, быў прыведзены факт, што вучні вёскі Мядзьведзічаў, Ляхавецкага раёну ў часе летніх канікулаў дапамагалі рамантаваць і ўладжваць касьцёл. Дакладчык падаў гэты факт як адмоўную зьяву сярод савецкіх школьнікаў („Чырвоная Зьмена", 5. І. 58).

### СТАРЭЙШЫХ ЗА СТО

У БССР у 80 раёнах жыве ўсяго 116 асобаў старэйшых за сто год. („Зьвязда", 15. І. 58).

### НА ГАЛОДНЫ ЖЫВОТ

„Звыш 5 тысячаў студэнтаў Беларускае сельскагаспадарскае акадэміі ў Горках ня могуць ні перад заняткамі, ні пасьля іх купіць харчовых тавараў". („Зьв., 15. І. 58).

### НІ ХАМУТОЎ НІ САНЕЙ

„У калгасе імя Чапаева, Чашніцкага раёну ёсьць даволі коней. Аднак, няма ў што іх запрэгчы: нестае саней і збруі. „Калі часам у магазынах і зьяўляюцца хамуты, дык яны вялікія й іх трэба перарабляць. Пра сані й гаварыць няма чаго. У продажы іх няма". („Зьв., 15. І. 58).

### ПРЫЗНАЧЭНЬНЕ САВЕЦКАГА ФІЛЬМУ

„Шчасьце трэба берагчы" будзе першым фільмам, які выпусьціць кінастудыя „Беларусьфільм" у 1958 г. Тэма фільму калгаснае жыцьцё й „барацьба з асобнымі прайдзісьветамі й п'яніцамі, якія перашкаджаюць разьвіцьцю грамадзкай гаспадаркі". („Чырв. Зьмена", 7. І. 58).

### БЕЛАРУСКІЯ ШАХМАТЫСТЫЯ

13 студзеня 58 г. у Рызе пачаўся XXV чэмпіянат СССР. Сярод удзельнікаў турніру І. Балясляўскі й А. Суэцін рэпрэзэнтуюць БССР.

### 400 КАЗАНЯЎ І 3 ЛЕКЦЫІ

У перадавіцы маскоўскага „Маладога Камуністага" (1957, № 12, б. 5) чытаем: „Падлічана, што сьвятары Мастоўскага раёну, Горадзенскае вобласьці за леташні год сказалі больш за 400 казаняў, а лекцыяў на антырэлігійныя тэмы за гэты час у раёне прачытана толькі 3".

# Жалобная хроніка

## АЙЦЕЦ Др. ЯЗЭП РЭШЭЦЬ

15 лютага 1958 году памёр у Чыкага ведамы беларускі каталіцкі рэлігійны дзеяч, манах-бэнэдыктынец, айцец доктар Язэп Рэшэць. Ксёндз Рэшэць вышэйшую тэалягічную асьвету атрымаў у Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ў Пецярбурзе. Найбольшую дзейнасьць на беларускай рэлігійнай ніве Нябошчык праявіў міжваеннай парой у Заходняй Беларусі.

Быў ён прафэсарам духоўных сэмінарыяў у Вільні й у Ломжы, ды кароткі час прэфэктам вучняў-каталікоў Віленскай Беларускай Гімназіі. Пісаў шмат на рэлігійныя тэмы ў „Biełaruskuju Krynicu" й віленскі каталіцкі рэлігійны часапіс „Chryścijanskuju Dumku". Тым-жа часам а. Др. Я. Рэшэць апрацаваў ды выдаў у Вільні колькі тэалягічных і папулярных рэлігійных выданьняў, а між імі й „Karotki katechizm dla Biełarusaŭ - katalikoŭ" (1927), перавыданы ў мінулым годзе ў ЗША.

Прасьледваны ўвесь час польскімі каталіцкімі духоўнымі ўладамі за рэлігійна-нацыянальную дзейнасьць сярод Беларусаў-каталікоў, а асабліва сярод слухачоў духоўных сэмінарыяў, а. Рэшэць быў перакіданы зь месца на месца й у канцы, быў змушаны эміграваць у Амэрыку. У ЗША а. Рэшэць жыў у Бэнэдыктынскім манастыры Сьв. Пракопа у Lisle, каля Чыкага; меў манаскае імя Атаназы.

Сьв. П. Нябошчык азначаўся вялікай рэлігійнасьцяй і глыбокім беларускім патрыятызмам. Справамі партыйна-палітычнымі ніколі ня цікавіўся, удзелу ў іх ня браў. Быў сьвятаром з шчырага пакліканьня, сьвятаром высокай духовай культуры й шырокай тэалягічнай веды, а адначасна сьвятаром нязвычайнай хрысьціянскай скромнасьці, прасьціні й пакоры. Цяпер вось сьмерць абарвала на чужыне гэты прыкладны хрысьціянскі шлях цiхой працы й малітвы на службе Богу й свайму беларускаму народу.

## ЮРЫ САБАЛЕЎСКІ

25 сьнежня мінулага году ў Нямеччыне, куды быў выехаўшы на сталае жыцьцё, раптоўна памёр Юры Сабалеўскі. Вестка аб сьмерці дайшла да нас досыць спозьнена. Прычына сьмерці, відавочна натуральны канец веку.

Юры Сабалеўскі нарадзіўся ў Стоўпцах над Нёмнам. Адукацыю атрымаў у расейскіх школах і быў з прафэсіі землямерам.

У беларускую справу ўлучыўся ў 1920 гадох. Быў паслом у Польскім сойме першага склiканьня, ад Навагрудчыны — належаў да Беларускага Пасольскага Клюбу-Грамады. Да самае сьмерці ад беларускае справы не адыходзіў і ў розныя часы займаў высокія адказныя становішчы. На эміграцыі належаў да ўгрупаваньня БЦР і быў актыўным супрацоўнікам Рады БНР.

Стоячы перад фактам пераходу ў вечнасьць, памінаючы розныя зямныя спрэчкі й сутычкі, у хрысьціянскай шчырасьці схіляем галовы й прамаўляем апошняе:

Супакой ягонай душы.

## КАМУНІКАТ № 1/58

### ГАЛОЎНАЯ УПРАВА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ,

Новаабраная Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе гэтым падае да ведама ўсіх сяброў ЗБК, усіх установаў і арганізацыяў ды наагул усёй беларускай грамадзкасьці, што IX-ы Агульны Зьезд Сяброў і Дэлегатаў ЗБК, які адбыўся 25 і 26 студзеня сёлета ў гор. Таронта, прайшоў зь вялікім дасьпехам і закончыўся з добрымі вынікамі (аб ходзе Зьезду й ягоных выніках будзе падрабязна паведамлена ў блізкім часе ў Бюлетэні № 3). Мандатная Камісія IX Зьезду складалася з сп. сп. Г. Барановіча, М. Ганько й А. Протаса.

У Прэзыдыюм IX Зьезду былі абраныя: сп. сп. мгр. А. Грыцук, Г. Барановіч і Л. Жураўскі: першы зь іх — за старшыню, другі — за сакратара.

У склад Выбарчай Камісіі ўвайшлі: сп. сп. мгр. М. Арцюх, М. Ганько і М. Буцька, якія правялі выбары кіраўнічых, кантрольных і судовых (Сябр. Суд) органаў Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе.

На Старшыню Галоўнае Управы бальшынёю галасоў быў абраны сп. Антон Маркевіч. У склад Галоўнай Управы ЗБК ўвайшлі наступныя сп. сп: К. Акула, інж. Я. Бруцкі, мгр. М. Арцюх, Я. Чорны, М. Рачыцкі і А. Лабэцкі.

На 1-ым паседжаньні новаабранай Галоўнай Управы, 29 студзеня сёл., гэтак былі падзеленыя функцыі між Сябрамі Галоўнае Управы ЗБК:

Сп. К. Акула — заступнік старшыні й рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў;

Сп. інж. Я. Бруцкі — заст. старшыні і арганізац. рэфэрэнт;

Сп. М. Рачыцкі — сакратар;

Сп. Я. Чорны — скарбнік;

Сп. мгр. М. Арцюх — культурна-асьветны рэфэрэнт, і

Сп. А. Лабэцкі — сябра Управы (вонкавыя дачыненьні).

У склад Нагляднай Рады ўвайшлі: сп. сп. д-р В. Жук-Грышкевіч, Г. Барановіч і сп-ня О. Грыцук.

У склад Сяброўскага Суду ўвайшлі: сп. сп. А. Протас, мгр. А. Грыцук і Я. Баран.

На гаспадара Беларускага Дому быў абраны сп. М. Рачыцкі.

IX Зьезд паслаў пісьмовыя прывітаньні сп. Прэзыдэнту Рады БНР — інж. М. Абрамчыку, Іх Высокапрэасьвяшчэнствам Прэасьвяшчэнэйшым Архіепіскапам БАПЦ — Уладыкам Сергію і Васілю, а таксама Прэмёру Канады — м-ру Дыфэнбэкэру й лідэру апазыцыі — м-ру Пірсану.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**А. Маркевіч** — Старшыня Галоўнай Управы ЗБК

**М. Рачыцкі** — Сакратар Галоўнай Управы ЗБК

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, праслухаўшы рэфэрат Я. Запрудніка аб выдадзенай Н. Вакаром кнізе ў вангельскай мове **„Беларусь. Тварэньне нацыі"**, прыйшоў да гэткага выснаву:

Беларус 13.

Выдадзеная ў ЗША Н. Вакаром кніга „Беларусь. Тварэньні нацыі", маючы за сабой санкцыю Гарвардзкага ўнівэрсытэту ды трапіўшы на грунт, дзе няма ніякае бадай іншай даведніцкае літаратуры пра Беларусь, сталася галоўнай і найболш аўтарытэтнай крыніцай інфармацыі іншамоўнага навуковага, а таксама й палітычнага сьвету, пра нашую справу, наш народ і бацькаўшчыну. Праца Вакара павінна была запоўніць вялікі прагал у англамоўнай літаратуры пра Беларусь. Нажаль, калі яна часткова й выканала гэтае заданьне, дык адначасна ўнесла ў паняцьці чужынцаў аб нас мноства вельмі шкодных памылак, сьведамага выкрыўленьня фактаў на нашую некарысьць і памылак фактычных, якія, дзеля свае вялізарнае колькасьці, сьветчаць аб поўнай некампэтэнтнасьці аўтара ў пытаньні беларускае справы наагул. Дзеля ўсяго вышэйпрыгаданага ВІНіМ лічыць патрэбным зарэагаваць адпаведным спраставаньнем на гэты хвалыш аб Беларусі.

* * *

У сыботу 22 лютага ў ВІНіМ-е ген. Ф. Кушаль прачытаў свой чарговы рэфэрат на тэму: „Вайна Жыгімонта III Вазы з Маскоўшчынай ды адваёва Смаленшчыны й Севершчыны".

Дакладчык прадставіў слухачом тое палажэньне, якое стварылася ў Маскоўшчыне, калі на маскоўскім пасадзе закончылася дынастыя Рурыкавічаў. Зьяўленьне раду г. зв. самазванцаў, якія імкнуліся здабыць для сябе маскоўскі царскі пасад і пераход на іхны бок ведамых маскоўскіх баяраў, спадкаемцаў Рурыка, спрычыніліся да вялікага разруху ў маскоўскім гаспадарсьцьве. Цар Васіль Шуйскі, ня даўшы рады з самазванцамі й сваймі баярамі, зрабіў быў вайсковы хаўрус із швэдзкім каралём Каралем IX, які меўся дапамагчы яму вярнуць парадак у Маскоўшчыне. Гэты вайсковы хаўрус і спрычыніўся да ваеннае інтэрвэнцыі Жыгімонта III у Маскоўшчыне.

У 1609 г. Жыгімонт абступіў із сваёй арміяй, якая ў вялізнай бальшыні складалася зь Беларусаў, Смаленск, ды пасьля даўгое аблогі здабыў яго і ўлучыў ізноў у склад Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля дакладу, як заўсёды, адбылася дыскусія.

## БАЛЬШАВІЦКІЯ ПАЦЕХІ ПАД 2000 ГОД

У навагоднім нумары бальшавіцкае газэты „Вечерняя Москва"" зьмешчаны рад артыкулаў савецкіх навуковых, у якіх падсавецкае жыхарства пацяшаецца будучымі дасягненьнямі пад 2000 год. Гэтта падаём выпіскі з артыкулаў, з камантарамі да іх.

— ✣ —

### МЭДЫЦЫНА БУДУЧЫНІ

*...Зьменіцца кірунак тэрапіі, іншай стане й хірургія. Галоўным заданьнем яе будзе замена пашкоджаных органаў, прыкладам, рук, ног, нырак — здаровымі* (а дзе іх браць? — Рэд.). *Гэта не лятуценьні а, бадай, рэальнасьць. Ужо й цяпер дактары з дасьпехам замяняюць гасткі нутраных судзінаў — перакладаюць скуру, рагавіцу вока... (праф. Л. Мясьнікоў).*

А тымчасам бальшавіцкая ўлада славіцца сьцінаньнем галоваў, выкручваньнем рук і ног, ламаньнем рэбраў, выбіваньнем зубоў ды інш. — а новых ня ставяць.

— ✣ —

### КВАТЭРА, У ЯКОЙ ВЫ БУДЗЕЦЕ ЖЫЦЬ

*...Вось яно, нашае будугае жыльлё. Прасторныя, залітыя патокамі мяккага расьсеянага сьвятла, пакоі. Дарэгы, дзе-ж у-мешганыя электрыгныя лямпы? Ня турбуйцеся шукаць — іх няма. Тут сьцены, столь абложаныя адмысловымі крышталігнымі тар'ялямі, што вылугаюць сьвятло ад узьдзеяньня электрыгнага току. Пры дапамозе адмысловага рэгулятара можна стварыць прыемную ілюзію асьвятленьня, як перад захадам сонца, напоўніць памешканьне зьзяньнем сонегнага дня (інжынер Н. Пятроў).*

А тымчасам савецкі работнік павінен змагацца за права на куток дзесь у бараку (ды яшчэ й „аварыйным), дзе ў затхлым паветры, у абставінах горшых, чымся для жывёлы ў добрага гаспадара, жывуць савецкія працоўныя.

— ✣ —

### НА КАСЬМІЧНЫХ ДАРОГАХ

*...Іншыя зьбяруцца за сьвятогным сталом не адно на зямлі, але й на Месяцы ці на Марсе. Маггыма, што дзе-каго 2-тысягны год засьпее ў падарожжы па даўгіх касьмігных дарогах. Гэтыя касьмігныя падарожжы ня будуць адзінокімі. Радыёвая сувязь канца XX стагодзьдзя дасьць маггымасьць ім багыць сваіх сяброў на зямлі. Пагода для спатканьня 2-тысягнага году будзе зробленая назаказ (праф. К. Станіковіг).*

А тымчасам савецкія людзі спатыкаюць новы год па дарозе ў Салаўкі, Котлас, Ігарку, Казахстан, Паўночны Сібір ды іншыя катаржальныя пункты. Дарогі гэтыя таксама вельмі даўгія. Цікавасьць, ці верыць Станіковіч, што катарга савецкая да 2-тысячнага году скончыцца?

### ПАДЗЕМНЫЯ МАГІСТРАЛІ

*...Жыцьцё прыносіць свае папраўкі. У праектах могуць быць тыя ці іншыя зьмены. Але адно пэўна: да 2-тысягнага году Маскоўскі мэтрапалітэн разбудуецца так, што жыхары кажнага раёну гораду здолеюць карыстацца нашаю слаўнай падземкай (А. Горкаў).*

Гэты ўляпіў у сук: у 2-тысячным годзе, кагадзе, масквіч будзе мець тое, што жыхары заходніх сталіцаў маюць ужо даўно.

— ✣ —

### ГЛЕДЗЯЧЫ НА „СПУТНІКІ"

*З захопленьнем согагы рухі нашых касьмігных „спутнікаў", палюоты назіркам у зорную ног за Вялікім Возам (Мядзьведзіцаю) ці любуюгыся Птушыным (Млегным) Шляхам. мы не забываемся пра звыгайные гавяджае мяса й простае малако (Леў Касьсіль).*

То-ж пэўна: каму што, а галодная куме яда на уме. А ўсё-ж мілей атрымаць харчовую пачку з Амэрыкі, як пазіраць на „спутнікі".

## БЕЛАРУСКІ НАВУКОВЫ ЧАСАПІС У ПОЛЬШЧЫ

**У Варшаве хутка пачне выходзіць беларускі квартальны навуковы часапіс. Побач беластоцкага тыднёвіка „Ніва" й тыднёвай дзіцячай газэты „Зорка" будзе гэта трэці перыядычны друк Беларусоў у Польшчы.**

